Беларуская Канататыўная Контаррэвалюцыя

# НАВІНКІ

22 - 29 мая 2003 №14(93) Спэцыяльны выпуск


Аналітыка

Другая Беларуская Канататыўная Рэвалюцыя

# WANTED



## Black Pauluk

## for 100 bazavyx velichyn

# REWARD

**Суд Маскоўскага раёну г.Менску асудзіў за паклёп на Прэзыдэнта краіны (арт.172-1 ч.10 КаАП РБ) галоўнага рэдактара газэты «Навінкі» і прысудзіў яму штраф у памеры 100 базавых велічынь, што ў суме складае 1.400.000 руб.**

**І гэта пры тым, што ў рэдакцыі яшчэ ня плочаныя заробкі...**

## *5-я калЁнка рэдАктара*

### Нехта хоча пасварыць нас з Прэзыдэнтам!

20 мая адбылася падзея, якая можа накласьці вялікі адбітак ня толькі на стан свабоды слова ў Беларусі, але й на ўсю геапалітычную сытуацыю ў рэгіёне. Афіцыйнай падставай да судовага разьбіральніцтва стаўся аналітычны матэрыял ***«Другая Беларуская Канататыўная Рэвалюцыя»*** (*Навінкі*, №7 за г.г.), прысьвечаны прыняцьцю беларускай Палаты прадстаўнікоў у Парлямэнцкую Асамблею Савету Эўропы (ПАСЭ). Аднак супрацоўнікі пракуратуры ўгледзелі ў ім «абразу гонару й годнасьці Прэзыдэнта». Аб'ектам падвышанай пільнасьці стражоў закону сталіся ілюстрацыі да названага артыкулу з выявай прэзыдэнта. Прычым ні пракуратура, ні суд афіцыйна гэтак і не ўдакладнілі, на якой ілюстрацыі і якія канкрэтна камэнтары зьяўляюцца крамольнымі. Пры разглядзе справы суд адмовіў у хадайніцтве аб прызначэньні мовазнаўчай экспэртызы, якая б сапраўды магла давесьці або абвергнуць аргумэнты абвінавачаньня. Такім чынам, нехта жадае падкласьці парсюка кіраўніку краіны і пасварыць яго з нашай газэтай, якая насамрэч зьяўляецца лакмусавай паперкай наяўнасьці (або адсутнасьці) свабоды слова ў Беларусі. Але мы не здамося і зьбіраемся далей шукаць праўды і абскардзіць рашэньне суда ў адпаведных органах.

## *ВЕчнае*

### Фільтруй базар, шчаўкапёр!

Я вам так кажу апрыёры:
Не гнявіце Яго, радзі бога.
Пра Яго гавараць толькі добра,
Добра толькі – або нічога...

Сыты, раскормлены, пуза да долу,
Баксы з кішэні прут,
Тлушчам на вуснах усьміхаецца нагла
Газэтна-часопісны спрут.

На друкаваных старонках
Глумлівы тэкст лжэсатырыкаў.
Б'е прама ў вочы херня!
Забараніць іх клазэтную лірыку!
Уваліць адшчапенцам рамня!

Калі журналюга брудным пальцам
чапае

Сьвятых праайцоў Сінявокай,
Хай негадзяй «зайцам» адкажа,
Рублём!!!
Давіць
Абібокаў!

Ярыла Пшанічны

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазітываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2389

Нумар падпісаны да друку 21.05.2003г., а 23.59. Тыраж 3000 экз.

# Беларуская канататыўная контаррэвалюцыя

## Прамова старшыні сэміятычнай экспэртнай камісіі Ралана Барта, якая не адбылася

*Ралан БАРТ (1915–1980) – францускі філёзаф, літаратуразнаўца, сэміёлаг, аўтар кніг «Сад-Фур'е-Лаёла», [illegible], «Асалода тэкстам», «Камэра Люцыда»*

Паважаны Высокі суд Маскоўскага раёну! Прашу прыняць да ўвагі перадусім, што ў артыкуле, за які абвінавачваецца мой кліент, няма абразы і паклёпу, як гэта магло падацца шаноўнаму істцу. У момант напісаньня артыкулу, кліент знаходзіўся ў стане сэміятычнага афекту, што павінна трактавацца, як зьмякчальная акалічнасьць.

А сэміётыка ў сваю чаргу – гэта не наркатычны сродак, а навуковая дысцыпліна, якая вывучае вытворчасьць, будову і функцыянаваньне розных знакавых сыстэмаў, якія захоўваюць і перадаюць інфармацыю.

Сэміётыку цікавіць не пошук значэньня, але спосаб азначэньня: зьмест, не ўкшталтаваны ў форму, не зьяўляецца прадметам сэміятычных дасьледаваньняў.

Сэміётыка перадусім абапіраецца на паняцьце знаку, як матэрыяльна-ідэалістычнага ўтварэньня, якое рэпрэзэнтуе нешта ў момант яго(?) адсутнасьці і мае за мэту перадачу іхнага зьместу і выконвае ролю мэдыюму ў культуры. У сваёй сукупнасьці знакі ўтвараюць мову, у сэміятычнай тэорыі мова выступае як рэпрэзэнтант усіх іншых сыстэмаў і ў той самы час ёсьць асобным момантам сэміятычнай функцыі. У працэсе разьвіцьця сэміётыкі, паняцьце знаку адышло на другі плян, саступіўшы месца паняцьцю тэксту, інтэгратыўнага знаку, праваднiка функцыі значэньня, якое становіцца для абазначэньня любой зьмястоўнай пасьлядоўнасьці знакаў-выказваньняў. У наступным разьвіцьці сэміётыкі абазначыўся выхад па-за межы дасьледаваньня выключна ўнутрысыстэмных зносінаў. У паведамленьні сэміётыка вызначае два ўзроўні – дэнататыўны, што значыць фактычнае паведамленьне і канататыўны, дадатковае значэньне, сацыякультурна абумоўленая сымбалічная нагрузка. Кожная мова прадстаўляе сабой камбінацыю дэнататыўнага і канататыўнага – такая ёсьць дынамічная рэальнасьць сэміятычнай сыстэмы. Вывучэньне канататыўных азначэньняў выклікала дыскусіі аб сэміятычнай камунікацыі і сэміятычнай сыгніфікацыі, што зьявілася пераходам ад вывучэньня знакавых сыстэмаў непасрэдна ўсьвядомленых і сьвядома выкарыстаных ужывальнікамі мовы да неўсьвядомленых знакавых сыстэмаў. Па сутнасьці гэта пераход да сэміятычнага вывучэньня сацыяльнага несьвядомага, адкрыцьцё для сэміётыкі новых галінаў дасьледаваньня. Калі сэміятычная камунікацыя настойвала на тоесьце папярэдняй ўсталяванасьці азначанага і азначальнага і не брала пад увагу дадатковыя значэньні, што разбураюць структуру коду, безь якога становіцца немагчымай камунікацыя, то ў сыгніфікацыі жорсткі сэміятычны базіс напаўняўся рэальным сацыякультурным зьместам, акцэнт пераносіўся на сам працэс нараджэньня сэнсу. Кожная эпоха мае свой сэміятычны стыль, свае спосабы інтэрпрэтацыі тэкстаў. У наступстве чаго камбінацыя і карэляцыя асобных сэміятычных сыстэмаў вызначаюць тып культуры. Такім чынам, шаноўны Высокі суд Маскоўскага раёну, віна майго падабароннага ў тым, што цікавая і карысная навука сэміётыка яшчэ не пасьпела распаўсюдзіцца ў нашым краі, каб стаць адной зь яркіх фарбаў палітры нашай культуры, як паліталёгія, кіналёгія і генэтыка. Прашу Высокі суд Маскоўскага раёну з улікам вышэйпрыведзеных фактаў апраўдаць майго падабароннага.


Пацярпелы


Ісьцец



Судзьдзя

Патрабую для абвінавачанага вышэйшай меры!

Я Маркевіча судзіў, я Івашкевіча судзіў, і цябе падаўна засуджу!

Я патрабую сьледчага экспэрымэнту!

Да здраўствуе Маскоўскі суд, самы Маскоўскі суд у Менску!

**Як гэта трэба разумець пасьля 20.02.2003.**

Мешкі пад вачыма. Наступства бессонных ночай, праведзеных у думках аб будучыні краіны.

Элегантны начос. Відавочная сьціпласьць, належная сапраўднаму народнаму палітыку.

Пінжак, набыты ў магазіне second hand. Так, на заробак прэзыдэнта не разгуляесься.

Вусы. Памяць аб славутым дэмакраце Захаранку.

No pasaran! БНФ не пройдзе!!!!

Сэміёт самы настаяшчы!

Я сказаў «канатацыя», а не «мастурбацыя». Ну вы ў натуры даеце, тарам-тарам!

**Прашу вашай падтрымкі!**

Персьцёнак – сымбаль добрага сем'яніна, бацькі двух дзяцей.

Шырокая мужчынская рука знатнага хлебароба, які не баіцца фізычнай працы.

Адкрытая далонь рукі – з часоў зары чалавецтва гэта значыла знак поўнага даверу.

Народ – лепшая ахова гаранта канстытуцыі. Такому чалавеку няма чаго баяцца ў сваёй краіне.

Сеньня ж увечары ўсё будзе вядома Бушу!

На ягоным месцы мусіў быць я!


Адказчык


Адвакат


Экспэрт

# ДЭТЭКТАР ХЛУСЬНІ

# Краіна экстрэмальнай журналістыкі

Журналістыка – ня толькі адная з самых старажытных прафэсіяў, але, як сьведчаць апошнія падзеі, і адная з самых небясьпечных. Па ўсім сьвеце камбаты пяра і клявіятуры, нібыта салдаты на перадавой, кладуць свае галовы за ідэалы свабоды слова і за трыюмф справядлівасьці. Не абмінуў гэты сумны лёс такую, здавалася б, дэмакратычную краіну, як нашая родная Беларусь. Аднак, калі ў іншых краінах шчаўкапёр-недарэка часьцей за ўсё становіцца ахвярай дыктатара-самадура, альбо трапляе ў закладнікі да тэрарыстаў, то ў нас гэтая тэндэнцыя мае крыху іншую спэцыфіку. Для нашай фэміды стала ўжо традыцыяй за антыпрэзыдэнцкі артыкул адпраўляць журналіста на «хімію», што па словах нашага калегі з тэлекампаніі НТВ Паўла Селіна азначае «что-то вроде открытой тюрьмы». Відаць, сапраўды «хімія» становіцца такой жа неад'емнай часткай чыста беларускай нацыянальнай журналістыкі, як прага да «смажаных» фактаў зьяўляецца неад'емнай часткай амэрыканскай нацыянальнай журналістыкі. Як ні намагаліся адвакаты галоўрэдаў Маркевіча ды Івашкевіча апраўдаць сваіх кліентаў, нічога з гэтага не атрымалася. Паехалі хлопцы пілаваць дошкі на карысьць радзімы. А зь імі і Мажэйка, які і жыцьця яшчэ як належыць не пабачыў. Не дапамаглі ні шматлюдныя пікеты каля будынку суду, ні пратэст сусьветнай грамадзкасьці, ні заявы міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Усе гэтыя акалічнасьці мімаволі наводзяць на думку, што ад адваката мала што залежыць, а лёс незалежнага журналіста ўжо даўно прадвырашаны звыш (альбо богам, альбо кімсьці яшчэ). У такім выпадку галоўнай задачай для чарговага гіпатэтычнага падсуднага становіцца не апраўданьне ды вяртаньне сабе і сваёй газэце добрага імя, а пазьбяганьне ўсё той жа «хіміі», якая дамоклавай заточкай навісла над зарваўшымся пісакам. І тут ужо штраф, якім бы фантастычным ні быў яго памер, становіцца самым жаданым вэрдыктам суду. І што ж, спытае нас шаноўны чытач, рабіць? Няўжо стаць артадаксальным фаталістам і спадзявацца на рускі авось? Не, адкажам мы вам і будзем мець рацыю. На ўласным досьведзе мы вывелі і даказалі «Тэорыю хімічнай залежнасьці беларускага журналіста». Кожнаму журналісту, які марыць заняць пасаду галоўнага рэдактара, мы прапануем прайсьці нескладаны тэст, які з дакладнасьцю ў 93% пакажа вашую схільнасьць да крыміналу. І ў выпадку станоўчага выніку раім вам хутчэй кідаць дурное і... Як любіў казаць наш калега Гангадзэ, у добры шлях!

Ці асацыюецца назва вашага выданьня з чалавекам, які зьбег з Навінак у пагоні за рабочым?
+ –

Ці ёсьць у вашым горадзе вул. К.Маркса 38?
+ –

Колькі літараў у назьве вашага выданьня: 6(+) або 7(–)?
+ –

Ці маеце вы бараду і вусы?
+ –

Ці носіце вы акуляры?
– +

Ці былі вы камсамольцам?
– +

Вы белабрысы (+) ці чарнабровы (–)?
– +

Ці здымаліся вы ў кіно?
+ –

Ці мае вашае выданьне сайт у Інтэрнэце?
– +

Ці былі вы калі-небудзь сябрам БНФ?
– +

Ці ёсьць у вас малодшы брат Юра?
+ –

Ці пісалі вы пасквілі на адрас А.Р.Лукашэнкі?
– +

Як вы ставіцеся да коней?
– +

Ці падтрымліваеце вы рабочы рух?
+ –

Ці слалі вам апазыцыянэркі свае фоткі-«ню»?
+ –

Вас зьбівалі невядомыя ў цывільным?
+ –

Ці носіце вы пінжак і гальштук?
– +

Ці рэгулярна вы сушыце сухары?
– +

Ці былі на юбілеі вашай газэты трансвэстыты?
+ –

Ваш узрост да 30 гадоў?
+ –

Ці ведаеце вы акорды песьні «Хімія» з к/ф «Случай з пацаном»?
+ –

Ці былі вы на прыёмах у пасольстве ЗША?
+

Вашая вага больш за 70 кг?
+

Ці ёсьць у вашай газэце чарнуха, парнуха і культурная аналітыка?
+ –

Ці сядзелі вы на сутках?
– +

Ці былі вы калі-небудзь у шкуры лідэра апазыцыі?
+ –

Ці служылі вы ў войску?
– +

Ці любіце вы гучныя судовыя працэсы?
+ –

Ці абвінавачвалі вас апазыцыянэры ў сувязях з КДБ?
+ –

Вас завуць Паўлюк?!
+ –



ВІНШУЕМ, паважаны калега! Вам пашанцавала ўнікнуць «хіміі», і вы, замест таго, каб пілаваць дошкі, аддзелаецеся «лёккім штрафам» у 700 баксаў. Хаця іх у вас будуць вылічваць з заробку аж да чарговых прэзыдэнцкіх выбараў у 2006 годзе.



ВІНШУЕМ, паважаны калега! Вы гераічна прайшлі першы этап барацьбы за свабоду слова! На перадзе ў вас новыя «этапы», але не журыцеся: за чорнай паласой будзе белая – амністыя.